Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў
ад 9 да 2 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты:
за 1 год—7 зл., за паўгоду—
3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл.,
за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 12 лютага 1930 г. №. 7

## Цень Азэфа.

Ад самага пачатку будаваньня новага ладу ў СССР творцы сацыяльнае рэвалюцыі спыніліся перад двума в. труднымі пытаньнямі, „абыйсьці“ ці „пераступіць“ праз якія аказалася немагчымым. Гэтыя пытаньні — **нацыянальнае і сялянскае.** Але бясспрэчна геніяльны грамадзкі будаўнік, **Ленін**, знайшоў формулу дзеля іх вырашэньня. Пасьля першапачатковага разгону ў кірунку падганяньня ўсіх нацыянальнасьцяў пад „маскоўскі ранжыр“, пасьля заявы ў нас, у Вільні, тав. Іоффэ ў 1919 годзе, што „все вы—белоруссы и литовцы—будете хорошыми русскими“,—Ленін рашуча зьмяніў курс савецкае нацыянальнае палітыкі ў кірунку **падтрыманьня культурна-нацыянальнае творчасьці паасобных народаў і тварэньня нацыянальных рэспублік**—у складзе СССР. А ў адносінах да сялянства, — ізноў-жа пасьля жорсткіх, часта крывавых экспэрымэнтаў з забіраньнем сялянскага хлеба і ўсякага дабра дзеля пракорму места,—па думцы таго-ж Леніна, падзяліўшага дворныя землі між сялянамі, распачата была палітыка **дапамогі ў разьвіваньні і рацыяналізацыі дробных хутарскіх гаспадарак**, якія ў Усходняй Беларусі—ў працягу першага дзесяцігодзьдзя савецкай улады—так буйна расьцьвілі. Праўда, адначасна тварыліся і кольлектыўныя сельскія гаспадаркі, але—бяз ніякае прынукі, дый пад „колгасы“ ў Усх. Беларусі адыйшло ўсяго некалькі працэнтаў (здаецца, толькі 3%) здатнае пад гаспадарку зямлі.

Такая палітыка і з паасобных нацыянальнасьцяў, і з стомільёнавае сялянскае масы СССР зрабіла шчырых прыхільнікаў новага ладу. Унутраная грамадзкая барацьба ў СССР, падтрымліваная вельмі энэргічна вонкавымі сіламі і вонкавымі грашмі, значна сьцішэла, утраціла сваю ранейшую вострасьць. І здавалася, што той залаты мост, які пабудаваў Ленін паміж сялянствам і мястовым пралетарыятам, паміж паасобнымі нацыянальнасьцямі і Масквой, дае шырокія магчымасьці для савецкага будаўніцтва ў атмосфэры гармонічнага супрацоўніцтва дзьвюх асноўных галінаў працоўнага народу: сялянства і работнікаў—бяз розьніцы нацыянальнасьці.

Але вось у кіраўнічых сфэрах СССР—пасьля сьмерці Леніна—пачынаюцца адбывацца нейкія дзіўныя праявы. Адзін за адным усе старыя супрацоўнікі Леніна абвяшчаюцца... „контррэвалюцыянерамі“, „адступнікамі“, „здраднікамі“ Рэвалюцыі і працоўных масаў. Такі лёс спатыкае перадусім **Троцкага** і цэлую групу яго супрацоўнікаў—найбольш выдатных савецкіх дзеячоў. Далей—**Луначарскага** і **Бухарына**, найвыдатнейшых тэорэтыкаў „ленінізму“. І ў рэзультаце на чале ўсяго дзяржаўнага жыцьця СССР бачым аднаго—адзінага **Сталіна**, як бясспрэчнага **дыктатара, „чырвонага Муссоліні“.**

Нядаўна мы зьмясьцілі ў нашай часопісі стацьцю аб гішпанскай дыктатуры, у якой, паміж іншым, адзначалася, што гэтая форма ўлады, сама па сабе вельмі шкодная для народу, як забіваючая яго грамадзкую самадзейнасьць, асабліва катастрофальныя вынікі дае тады, калі дыктатар—чалавек бяздарны. Акурат гэта й трэба сказаць аб дыктатуры Сталіна, які сваімі апошнімі крокамі прымушае вельмі паважна задумацца аб тым, што прадстаўляе асоба „чырвонага Муссоліні“: ці мы маем тут дзела з чалавекам **шалёным,** ці—з **правакатарам?**

Запраўды-ж: куды вядзе Сталін працоўныя масы СССР? Ён з поўнай сьвядомасьцяй стараецца выклікаць у СССР, і так перажываючым цяжкі эканамічны крызіс, стан **бясспыннае ўнутранае грамадзянскае вайны:** **вайны паасобных нацыянальнасьцяў—з Масквой і маскоўскім нацыяналізмам,** кінуўшымся душыць гэтыя нацыянальнасьці, як за царскіх часоў было,—і **вайны стомільёнавае сялянскае масы з мястовым пралетарыятам.** Аб распачатай барацьбе з беларусамі і ўкраінцамі нашы чытачы ўжо ведаюць; аб вайне, абвешчанай сялянству, зьмяшчаем сягоньня спэцыяльную стацьцю.

Нам давялося атрымаць некалькі нумароў „Савецкае Беларусі“ з сярэдзіны мінулага студзеня. Там мы знайшлі цікаўныя інфармацыі аб тым, як Сталін тлумачыць свае загады аб прымусовым заганяньні сялян-гаспадароў у „колгасы“. Сяляне, бачыце, на сваіх хутарох, твораных у працягу 10 гадоў дзякуючы дапамозе савецкае ўлады, пачалі... **багацець!** З гэтым Сталін ня можа пагадзіцца: яны мусяць бяднець,—тады ўсё будзе добра!—вось яго пагляд. А што яны, багацеючы, давалі і больш хлеба мястовым работнікам,—гэта няважна: **лепш няхай работнік дохне з голаду, але хлеб ён мусіць даставаць не з індывідуальных сялянскіх гаспадарак, а—з „колгасаў“.** Такі сэнс быў вялікае прамовы Сталіна, сказанае яшчэ ў красавіку 1929 году на пленуме Ц. К-ту Усесаюзнае Камуністычнае Партыі і надрукованае цяпер у бачаных намі нумарох „Сав. Беларусі“... І Сталін загадывае ў ўрацягу **5** гадоў **перавесьці ўсіх сялян-гаспадароў на палажэньне парабкоў у кольлектыўных гаспадарках**—пасьля таго, як у працягу **10 гадоў** савецкая ўлада **культывавала хутары і ўзгадавала ў руху індывідуальнае гаспадаркі новае сялянскае пакаленьне, якое цяпер загадана перарабіць на кольлектывістаў!**

Ці не залішне ўжо многа выбуховага матэрыялу прыгатаўляе гэтак Сталін—**дзеля ўзрыву таго новага ладу,** які запанаваў у СССР, **тых здабычаў работнікаў і сялян,** якія аплачаны цэлым морам пралітае крыві? І ці не паўстае ў вачох працоўных масаў СССР і старых рэвалюцыйных дзеячоў колішняе царскае Расеі цень самае агіднае пастаці з жыцьця рэвалюцыйнага падпольля—пастаці сучаснага Юды—Азэфа?

---

X. I.

### З цыклю: „Новая Беларусь“.

Як толькі у сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню я Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях...

М. Багдановіч.

Я не баюсь за Беларусь:
Яна, працоўная, прачхнулась,
І песьні радасьці цьвітуць
Ад Адраджэньня шуму-гулу...

У пушчах нехта грукаціць,
У вёсках, местах — палымніста,
І па палёх ідзе зьвініць
Дзён новых весьнік — Веснавіста.

Удэрым радасна ў трызвон:
Ніхто, ніхто ўжо нас ня зможа!
З вякоў няволі, стогнаў, сноў
Устае магутна Перамога.

1928 г.

---

## Вайна з сялянствам у СССР.

Нядаўна ў Празе зрабіў в. цікаўны даклад аб палажэньні ў СССР. ведамы эканаміст С. С. Маслаў, адзін з павадыраў расейскіх „трудавікоў“. З сваіх дасьледаў Маслаў сьцьвярджае, што СССР. па сутнасьці ізноў **ахоплены вагнём хатняй вайны...** Ідзе запраўдная крывавая вайна паміж камуністычнай уладай і сялянствам. За мінулы год улада расстраляла нямент 12.000 сялян—за бунты!.. Вайна ідзе зацятая, упорная—не на жыцьцё, але на сьмерць... Бо справа йдзе аб тое, **каму існаваць: камунізму, ці сялянству?**

Пакуль што наступленьне вядзе радавая ўлада; сялянства толькі бароніцца. Аднак-жа гэта пасыўная абарона з боку вёскі ўжо пагражае галоднай сьмерцяй месту... І вось, азброеная да зубоў, распаленае вагнём ненавісьці камуністычнае места пайшло запраўдным паходам—апошнім наступам—на безбаронную, але нязьлічаную сіламі і спрацілеўньнем, векавечную сялянскую вёску...

Сялянства ў СССР—апошняя сіла, апошняя кляса, якая не паддалася яшчэ камуністычнаму прыказу, жыве і думае па-свойму... Ад выніку гэтай барацьбы залежыць—быць ці ня быць камунізму надалей у СССР. Калі, кажа Маслаў, сялянства знойдзе ў сабе сілы ад абароны перайсьці ў наступленьне, ад камунізму не астанецца навет мокрага месца... Калі ня знойдзе, агонія народаў СССР будзе цягнуцца далей—да якога прыпадку... „барацьба проці ўлады“ у СССР павінна ператварыцца ў „барацьбу за ўладу“.

Так кажа Маслаў.

Зразумела, што свой паход проці сялянства, як соцыяльнай клясы, мястовы інтэрнацыянальны камунізм распачаў пад гучным лёзунгам „барацьбы з кулакамі“. Але ў апошні час наступ на сялянства прыняў ужо зусім іншыя, запраўды-ж „плянэтарныя“ формы.

Камунізм Сталіна паставіў сабе мэтай зьніштожыць да канца сялянства, як вольную соцыяльную клясу, сьцерці з аблічча зямлі адвечнага вольнага, самастойнага хлебароба, як сацыяльна-эканамічную „катэгорыю“. Сталін паставіў новую „стаўку“: апрача „раскулачываньня вёскі“, ідзе наагул пляновае—„в ударном порядке“—зьніштажэньне індывідуальных самастойных сялянскіх гаспадарак і масавы загон зруйнаваных гаспадароў у так званыя „колхозы“, ці—„калектыўныя (хаўрусныя) гаспадаркі“.

Заганяюць у „колхозы“ гвалтам, адбіраючы каней, кароў і іншую прыватную маемасьць гаспадара, якую перадаюць колхозу, дзе верхаводзяць, ведама-ж, ужо не „кулакі“ і наагул ня добрыя, умеючыя гаспадарыць і хаваць грош гаспадары, але тыя людзі, адзінай „кваліфікацыяй“ якіх ёсьць тое, што яны назваліся „камуністамі“...

І вось—пад страхам гэтых „колхозаў“—пачалося паўсюднае „разбазарываньне“ ўсяго апошняга дастатку шматмільёнавай сялянскай масы ў СССР. Сяляне ведаючы, што ўсё роўна будуць зруйнаваны, што воляй-няволяй пагоняць іх у „колхозы“, самі рэжуць малочную скаціну, прадаюць каней, гаспадарчыя прылады і інш. маемасьць...

Гіне такім чынам асноўны капітал—жывы і мёртвы інвэнтар сельскай гаспадаркі... Гінуць апошнія падставы самастойнага існаваньня сялянства... А той, хто запаліў гэты руйнуючы пажар: Сталін,—толькі радуецца, як—паводле камуністычнай праграмы—„пралетарызуецца“ сялянская вёска ў СССР, як хутка і добра сялянская кляса... „траціць свой дробна-буржуазны характар“...

Пабачым цяпер, што-ж можа быць з усей гэтай „плянэтарнай рэформы“ далей.

Калі-б яшчэ гэтыя „збаўенныя“ „колхозы“ былі загадзя падрыхтаваны, тады яшчэ можа-б з гэтага ўсяго нешта і выйшла. Прынамся, можа, людзі не памерлі-б з голаду пры гэтым „пераходзе з індывідуальнай гаспадаркі на калектыўную-соцыялістычную“.

Але „колхозы“ гэтыя—гэта-ж **адна мана.** На адзін—другі дзесятак запраўды добра пастаўленых „колхозаў“, дзе працуюць запраўды ідэйныя і чэсныя людзі, вялізарная маса іх самі ледзьве дыхаюць. Няма ў іх даволі ані капіталу, ані інвэнтару, ані насеньня, ані кіраўнікоў. Дык з гэтага відаць, чым можа скончыцца чарговы капрыс Сталіна... Бо-ж **колхозаў амаль — што няма, а сялянская гаспадарка траціць сваю эканамічную базу...**

Сялянства траціць галаву, няведаючы, што рабіць. У адных мясцовасьцях сяляне масова ідуць у „колхозы“, каб не памерці з голаду на сваіх бяз-конных, бяз-кароўных шнурох... У іншых сяляне масова да апошняга спраціўляюцца загову ў „колхозы“. Дзела даходзіць да паўстаньняў, з якімі ідзе пасьля ўжо аружная расправа, як з бунтам проці радавае ўлады...

І вось, пры такім палажэньні, пры такіх „спробах“ сацыялізацыі 100-мільёнавай сялянскай клясы ў СССР павой амаль ня прысуду яе на галодную сьмерць,—радавая ўлада, як цьвердзяць і мясцовы пралетарыят, і сялянская вёска, дзеля здабыцьця патрэбнай валюты—змушана будзе йшчэ частку запасаў хлеба, забранага з такімі страшэннымі ахвярамі ў галадаючага ўжо насяленьня вёскі, **вывезьці заграніцу...** Праўда гэта так ці не, хто там разьбярэ!... Але верацъ гэтым весткам, бо—ня верацъ уладзе...

Як, перазімаваўшы зіму, пачне сабе вясной шматпакутнае, сялянства, цяжка навет сабе ўявіць. Але ўсе дасьледчыкі і наглядчыкі кажуць, што так далей трываць дзела ня можа.—Сталін паставіў апошнюю стаўку. А што „выйграць“ яна ня можа, гэта-ж ясна з усяго, што сказана вышэй...

**Аглядчык.**

---

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### У сойме.

#### Заграчічная палітыка.

У камісіі замежных спраў мін. Залескі сказаў 2 гадзінную прамову аб заграчічнай палітыцы Польшчы ў працягу апошніх 3 гадоў.

Мін. падчыркнуў асабліва мірны характар вонкавай палітыкі Польшчы.

Далей міністар сказаў, што падставай міжнародавай орыентацыі Польшчы на далей зьяўляецца яе саюз з Францыяй. Асабліва мін. Залескі даводзіў, што паразуменьне Францыі з Нямеччынай ня толькі ня шкодзіць Польшчы, але наадварот—толькі дапамагае самой Польшчы наладзіць яе адносіны з Нямеччынай. Рэзультатам гэтага абапольнага імкненьня і зьявілася ўжо ведамая ўмова, ліквідуючая ўсе фінансава-палітычныя прэтэнсіі паміж Польшчай і Нямеччынай. Міністар і сам лічыць ужо цяпер паразуменьне Францыі з Нямеччынай падставай агульна-эўрапэйскага міру і палітычнай раўнавагі ў Эўропе. Гэта, здаецца, зусім новыя думкі ў мін. Залескага.

Перагаворы аб гандлёвым трактаце між Польшчай і Нямеччынай ужо гэтак пасунуліся наперад (?), што засталося толькі адно „прынцыповае пытаньне“, а іменна аб вывазе... сьвіньней з Польшчы ў Нямеччыну... У канцы аднак-жа сам міністар прызнаў, што перагаворы неяк усьцяж пасоўваюцца залішне павольна і могуць... не давесьці да памысных рэзультатаў. А тады—і прадаўжэньне перагавораў станецца непатрэбным...

Такім чынам паміж Польшчай і Нямеччынай усьцяж і „прынцыпова“ ляжыць — сьвіньня...

#### Бюджэт.

Бюджэтная камісія Сойму закончыла разгляд паасобных каштарысаў рожных міністэрстваў і іншых установаў дзяржаўнай гаспадаркі і прыступіла да апрацаваньня агульнае раскладкі даходаў і выдаткаў гаспадарства ў суцэльны бюджэт. Адначасна пачалася агульная дыскусія над урадовым праектам бюджэту на пленуме Сойму.

Генаральны дакладчык бюджэтнай камісіі пас. праф. Кшыжаноўскі прызнае бюджэт цяжкім для насяленьня краю, які знаходзіцца ў стане нячувана цяжкага гаспадарчага крызісу. Лічыць аднак-жа Польшчу—нячувана шчасьлівым краем, бо яна здабыла сабе шмат „маральных вартасьцяў“, зьдзейсьніла лятуценьні сваіх лепшых сыной, ідэалы дзяржаўнай самастойнасьці і дэмакратычнага ладу, што значна важней і даражэй, як іншыя „матэрыяльныя вартасьці“...

Усё гэта, можа і так, але ўсе гэтыя „маральныя вартасьці“ не забясьпечаць зараз у бюджэце —ані яго рэальнасьці, ані яго раўнавагі...

У вельмі цікаўнай дыскусіі, распачатай пасьля дакладу праф. Кшыжаноўскага, трэба насамперш сьцьвердзіць адсутнасьць традыцыйнага „экспозе“ міністра фінансаў, які звычайна выступае, як абаронца свайго бюджэту. Мін. Матушэўскі абмежываўся выступленьнем у камісіі.

Пасол Галінскі меў сумленьне сьцьвердзіць, што бюджэт амаль што нічога не дае нацыянальным меншасьцям. У канцы прамовы ён заявіў ад імя П.П.С., што партыя захоўвае свае становішча вострае апазыцыі адносна да ўраду, які не выяўляе добрай волі адносна да скасаваньня так званага „маёвага рэжыму“.

Прадстаўнік фракцыі нацыяналістаў таксама заявіў, што партыя яго не бярэ на сябе адказнасьці за бюджэт і ўсю дзяржаўную гаспадарку ўраду.

Прадстаўнік польскага сялянства заявіў, што бюджэт залішне цяжкі для згалелай сялянскай клясы. Залішне дорага каштуе армія, залішне многа паліцыі і ўсялякай адміністрацыі, ад якой сялянству толькі цяжэй. Але клюб „сялянскага саюзу“ будзе галасаваць за бюджэт, калі ў ім будзе зроблена значная эканомія дый будзе прыняты значны крэдыт на дапамогу сялянскай гаспадарцы.

Цэлы рад клюбаў меншасьцяў востра крытыкуючы бюджэт, які запраўды-ж неяк забываецца аб існаваньні ў Польшчы трацін няпольскага насяленьня, якому міжнародавыя трактаты гарантавалі амаль не культурна-нацыянальную аўтаномію, — заяўляюць, што будуць галасаваць проці бюджэту.

Пасьля гэтага пачалося на пленуме Сойму дыскусія аб паасобных міністэрствах, якая яшчэ ня скончылася.

#### Візыта галавы Эстоніі.

Польская і замежная прэса адзначае важны дыплёматычны пасьпех Польшчы — зьбліжэньня з Эстоніяй. 9 лютага прэзыдэнт Эстоніі, д-р. Штрандман прыехаў у Польшчу, каб злажыць візыту п. Прэзыдэнту Польскай Рэспублікі. Візыта гэта зрабіла вялікі рух у палітычных колах балтыцкіх дзяржаваў. Літоўская, Радавая, нават Латвійская прэса вельмі ўстрывожана гэтым неспадзяваным нават для саюзьніцы Эстоніі—Латвіі—крокам эстонскага габінэту. Латвійская соцыял-дэмакратычная газэта „Сац.-дэмакрат“ — перасьцерагае Эстонію ад зьбліжэньня з Польшчай, якая нічога, апрача клапоту і небясьпекі, ня можа даць балтыцкім дзяржавам. Крок эстонскага габінэту выклікаў асабліва вострыя выступленьні з боку радавай прэсы, якая ня скупіцца на пагрозы па адрасу Эстоніі.

---

## Заграніцай.

#### Марская канфэрэнцыя ў Лёндане.

Ужо тры тыдні працуе ў Лёндане канфэрэнцыя пяцёх марскіх дзяржаваў, але рэзультаты яе працы—неяк ня вельмі выразныя.

Дый—нічога дзіўнага, бо-ж інтарэсы розных дзяржаваў—у галіне „марской абароны“—настолькі розныя, што дайсьці да агульнай згоды—запраўды-ж цяжка.

Таму, калі ў часе нарадаў высьветліліся гэтыя асноўныя супярэчнасьці інтарэсаў і паглядаў дзяржаваў, дык была высунута думка, каб лічыць Лёнданскую канфэрэнцыю **толькі падрыхтаваўчай.**

Справа—у тым, што Мак-Дональд, „дагаварыўся цалком“ з прэзыдэнтам Хуварам у справах абмяжаваньня зброеньняў—„ад імя Брытанскай імпэрыі“,—узапраўднасьці пастанаўляў, як кажуць, „без гаспадара“. Бо-ж урад Мак-Дональда ня мае большасьці ў парляманьце, а агульна-брытанская апінія выказываецца цяпер рашуча проці „матэматычнай роўнасьці“ ангійскага і амэрыканскага флётаў. Трэба і можна згадзіцца, кажуць у вадзін голас фахоўцы ўсей імпэрыі, толькі на „запраўдную роўнасьць“, **якая прымае пад увагу розьніцу заданьняў** флётаў абедзьвюх дзяржаваў. Бо-ж Брытанская імпэрыя мае „марскую граніцу“ на 65.000 міляў, а Амэрыканскія Штаты—толькі 16.000 (няўлічаючы палярных валаданьняў абедзьвюх дзяржаваў). Матэматычная-ж аднолькавасьць флётаў будзе ня толькі крыўднай, але проста забойчай для Англіі. Таму ў часе канфэрэнцыі ўсьцяж адбываюцца па ўсей Брытанскай імпэрыі, асабліва-ж у Лёндане, **мітынгі пратэсту** проці „абяцанак Мак-Дональда Хувэру“... Мітынгі кансэрватараў выносяць рэзалюцыі аб тым, што „памеры брытанскага флёту павінны адказваць толькі патрэбам Брытанскай імпэрыі“... Мітынгі лібэралаў выразна падчырківаюць, што лібэралы не зьвязаны ніякімі абязацельствамі з урадам Мак-Дональда, дык могуць скінуць яго ў любы мамэнт.

Такім чынам супярэчнасьць паміж Англіяй і Амэрыкай, прынцыпова нібы зьліквідаваная яшчэ ў 1921 г. на Вашынгтонскай канфэрэнцыі, узапраўднасьці можа нанова завастрыцца на канфэрэнцыі ў Лёндане, якая мае задачай якраз завяршыць канчальна працу, распачатую ў Вашынгтоне...

Але, апрача супярэчнасьці паміж Амэрыкай і Англіяй, на канфэрэнцыі так сама толькі вастрэй раскрыліся, не знаходзячы дагэтуль злагоджаньня, і супярэчнасьці паміж цэлым радам іншых марскіх дзяржаваў, а насамперш паміж Францыяй і Італіяй.

Павадыры канфэрэнцыі пастанавілі, каб сьпярша кожная такая „пара дзяржаваў“ высьвятляла і ўладжывала свае супярэчныя пагляды на паасобных нарадах—„рандках“, шукаючы саматугам згоды. Таму агульныя паседжаньні канфэрэнцыі адбываюцца рэдка, але ўсьцяж ідуць нарады дэлегацыяў папарна. Часта гэтыя „пары“ запрашаюць на нарады трэцюю дэлегацыю, каб дабіцца лягчэй паразуменьня.

Дагэтуль, як сказана, паразуменьне між Італіяй і Францыяй не дасягнена. А яно як раз лічыцца Амэрыкай і Англіяй за найважнейшае (пасьля споркі паміж гэтымі дзяржавамі!). Таму яны асабліва націскаюць на францускую і італьянскую дэлегацыі, каб дагаварыліся ў Лёндане **ва ўсіх сваіх справах.** Бо-ж гэта, як кажуць у Лёндане. **„канчальна ўхіліла-б апошнюю (!?) укрытаю небясьпеку вайны ў Эўропе“...**

Але галава італьянскай дэлегацыі, Грандзі, відаць, ня вельмі жадае гэтага „ўхіленьня“, бо сам ухіляецца ад такога агульнага паразуменьня з Францыяй, кажучы, што на гэта ня мае паўнамоцтваў ад Муссоліні... Мае-ж толькі на тое, каб патрэбаваць прызнаньня Італіі—роўнага флёту з Францыяй. Але на гэта рашуча не згаджаецца Францыя. Дык у Лёндане парадзілі галаве францускай дэлегацыі, прэм. Тардьэ, каб ён у часе перарыву канфэрэнцыі—спаткаўся асабіста з Мусоліні, каб канчальна высьветліць француска-італьянскія адносіны яшчэ да канца канфэрэнцыі.

Колькі шансаў мае гэтае паразуменьне, найлепш паказывае фашыстоўская прэса. Адзін з галоўных органаў апошняй піша: „Калі Францыя будзе настайваць на сваім трэбаваньні дужэйшага флёту, тады Італія ня возьме на сябе адказнасьці за... крах лёнданскай канфэрэнцыі“... Характэрная наагул узьняўшаяся нанова ў брукова-фашыстоўскай прэсе ў Італіі кампанія лаянак, пагрозаў і зьдзекаў над Францыяй. Добрая музыка да прапанаванай „гутаркі“ Тардье з Мусоліні! Бо-ж без каманды Мусоліні фашыстоўская прэса наагул не пачынае ніякай „ударнай акцыі“, як гэта робіцца і ў бальшавікоў, дзе ўсё адбываецца па загаду Сталіна.

Трэба адзначыць высунутую Брыянам прапазыцыю, каб—проці нарушыцеля Трактату Кэллога—выступалі ангійскі, францускі і італьянскі флёты, як „маральная адзінка“. Мак-Дональд прыхільна прыняў гэтую думку Брыяна, заявіўшы, толькі, што—дзеля магчымасьці стварэньня такога „маральнага адзінства флётаў“ Францыя павінна якраз насамперш паразумецца ўва ўсіх сваіх спрэчных справах з Італіяй...

Як бачым, далёка яшчэ на канфэрэнцыі ня толькі да агульнага паразуменьня ў супольных справах „агульнага разбраеньня“, але навет да злагоджаньня супярэчнасьцяў у кожнай з нязгодлівых „параў дзяржаваў“.

Праца канфэрэнцыі разьлічана, як мы ўжо пісалі, на **тры месяцы.** Прайшлі ўжо тры тыдні. Можа, за тры месяцы што важнае і будзе зроблена, але... але—трэба думаць, толькі „падрыхтаваўчага“, а не дэцыдуючага значэньня...

---

## Кароткія навіны.

Старшынёй Комінтэрну—замест папаўшага ў „апалу“ Бухарына—сталінаўскі прэзыдыум Выкан. Камітэту Кам. Партыі пастанавіў высунуць **Молатава.** Молатаў—правая рука і асабісты прыяцель Сталіна.

Гэты Молатаў—адзін з найбалей „сьляпых на абодва вокі“ камуністаў, які бачыць ня тое, што ёсьць, а тое што напісана ў камун. праграме...

Радавы ўрад вядзе бясспынна „барацьбу проці Бога“, зачыняючы плянова і пастулова цэрквы і касьцёлы ўсіх вераў і вызнаньняў на тэрыторыі СССР. Толькі ў лістападзе і сьнежні 1929 г. зачынены 540 праваслаўных цэркваў, 11 лютэранскіх кірхаў, 63 сынагогі і 18 мячэцяў. Усяго ў 1929 г. зачынены 1200 розных хрысьціянскіх сьвятыняў, а ў 1928 г. былі зачынены толькі 354. У 1929 г. зачынены ўсяго 646 сынагогі. Бальшавікі заяўляюць, што да 1935 г, радавы ўрад пастанавіў „рашуча пакончыць з Богам на тэрыторыі СССР“...

Адначасна—ў „ударным парадку“—ідзе страшэнна завастрыўшаяся барацьба з духавенствам усялякага роду.

Сацыял-дэмакрат. фракцыя бэльгійскага парляманту выступіла ізноў з трэбаваньнем—прызнаньня ўраду СССР і ўзнаўленьня з ім дыплёматычных зносінаў. Але ўрад—у асобе мін. зам. спраў Юманса—рашуча заявіў у парляманьце, што ў сучасны мамэнт няма ніякіх падставаў дзеля зьмены адносінаў да гэтага ўраду. Толькі тады, калі ўрад СССР дасьць пэўныя гарантыі, што будзе выконваць прынятыя на сябе абавязкі, можна будзе ўзнавіць з ім нармальныя зносіны.

Сярод нямецкіх камуністычных арганізацыяў—паніка. Правал арганізаванага па загаду з Масквы „дня 1 лютага“—з аднаго боку, страшэннае абурэньне ўсяго насяленьня проці крывавых дэманстрацыяў—з другога—папсавалі гумар павадыроў. Працоўныя масы ўсё больш адыходзяць ад іх: замест спадзяваных тысячаў, на дэманстрацыі зьяўляецца па 100—200 чалавек. Але ў апошні мамэнт паніка выклікана гутаркамі, быццам нямецкі ўрад маніцца **зачыніць камуністычную партыю ў Нямеччыне цалком.** Дык павадыры пачалі, як пішуць газэты, хаваць ці ліквідаваць рознага роду маемасьць гэтай багатай партыі. Грошы пераводзяцца ў заграгічныя банкі і г. д. Зразумела, што пры такой „гарачцы“ найспрытнейшыя павадыры не забываюцца і аб забясьпечаньні сябе... У выніку—дэмаралізацыя шырыцца ўсьцяж...

Францускаму ўраду ізноў пагражае крызіс. Пагроза крызісу — настолькі рэальная, што прэм. Тардье кінуў на некалькі дзён працу ў Лёнданскай канфэрэнцыі і прыехаў у Парыж. Справа ў тым, што паміж прэм'ерам Тардье і левым флянгам урадавай коаліцыі выбухнуў востры канфлікт. Канфлікт завастрыўся яшчэ і асабістай варожасьцяй паміж. прэм. Тардье і павадыром левых радыкалаў Даніэлем. Важкасьць гэтага канфлікту відаць з таго, што гэтыя левыя радыкалы маюць у габінэце аж 6 сваіх прадстаўнікоў: трох міністраў і 3-х віцэ-міністраў, а сярод першых—такіх уплывовых дзеячоў, як Люшэр. Небясьпека завастраецца яшчэ і тым, што проці Тардье выступае—ў паразуменьні з гэтай „лявіцай“—і сам Брыян, якога премьер усьцяж „адціраe“ сваей асобай, як на канфэрэнцыі ў Лёндане, таксама і ўсюды—навет у уласнай галіне Брыяна—ў замежнай палітыцы Францыі.

Важным пасьпехам італьянскай дыплямацыі зьяўляецца падпісаны толькі-што дагавор прыязьні і арбітражу з Аўстрыяй. Як ведама, яшчэ нядаўна адносіны паміж Італіяй і Аўстрыяй былі вельмі варожыя, даходзячы неаднойчы да пагрозы дыплёматычнага разрыву. Прычына—нацыянальны ўціск італьянцамі („італьянізацыя“) у адносінах да нямецкага насяленьня Тыроля, захопленага часткова Італіяй у рэзультаце сусьветнае вайны. Італія, рыхтуючыся да нейкага рашучага „перагляду“ міжнароднага палажэньня і ролі Францыі, працуе ўсьцяж над прыдбаньнем сабе прыязьні ўсіх патрэбных дзяржаваў, асабліва маючых сувязь з Балканамі, перад усім з Югаславіяй, дзе першым чынам і мае адбыцца гэты „перагляд“.

У гмаху знамянітага Брытанскага Музэю, дзе сабраны найбагацейшыя калекцыі ўсялякіх старажытнасьцяў, цэннасьцяў мастацтва ўсіх часоў і народаў і іншых рэчаў, знойдзена была пастаўленая „пякельная машына“ (бомба). Бомба была такой сілы, што зьнішчожыла-б пры выбуху значную частку вялізарнага гмаху Музэю. Як высьвятлілася, бомбу падлажылі два студэнты-індусы, сябры проці-ангійскай тэрорыстычнай арганізацыі індускіх незалежнікаў. Вобыскі ў студэнтаў-індусаў у Лёндане не далі ніякіх рэзультатаў.

На жыцьцё новага прэзыдэнта Мэксыкі зроблены замах. Куля з рэвальвэру замахоўца трапіла ў твар прэзыдэнта, але абмінула важную артэрыю. Раненыя жонка прэзыдэнта і шофэр яго самаходу. Прэзыдэнт ужо папраўляецца.

# Хроніка.

× **Магчымасьць новых выбараў.** 24-га лютага Найвышэйшы Суд будзе разглядаць скаргі на няправільнасьці, дапушчаныя выбарнай камісіяй **Лідзкага** вокругу пры выбарах у Сойм у 1928 г. Магчыма, што Найвышэйшы Суд скасуе гэтыя выбары і загадае зрабіць новыя — паводле тых сьпіскаў кандыдатаў, якія былі пададзены напачатку.

× **Далейшыя арышты сярод беларусаў.** Як інфармуе „Dzien. Wil.“, аднача́сна з арыштам у Вільні цэлага раду беларусаў, зьвязаных з дзейнасьцяй Бел. Сял. Раб. Пасольскага Клюбу „Змаганьне“, адбыліся гэткія-ж арышты і на правінцыі. Паміж іншым, у Навагрудзкім ваяводзтве арыштаваны каля 50 асоб. Зроблены чысьленыя вобыскі ў гуртках Т-ва Беларускае Школы.

× **Яшчэ адзін былы пасол — за вастрожнымі кратамі.** Віленскі Акружны Суд засудзіў на 6 гадоў „дому паправы“ былага пасла Дуброўніка — за тое, што ў часе свайго „пасланьня“ зрабіў веча, ня маючы дазволу ад паліцыі, а як тая зьявілася разганяць сабраных, дык аказаў „чынны апор уладзе“. Разам з Дуброўнікам былі пацягнены пад суд яшчэ 10 асоб, якія засуджаны на од вастрогу кожын.

„Słowo“, орган абшарнікаў, зьмяшчаючы гэту вестку, з трыумфам абвяшчае, што яшчэ адзін беларускі пасол сеў за краты вастрогу і павялічыў сабой лічбы раней засуджаных беларускіх паслоў. Мы, аднак, аб „беларускасьці“ грам. Дуброўніка нешта нічога ня чулі, бо ён заўсёды быў у польскіх партыях. Дык радасьць „Słowo“ крыху беспадстаўная“...

× **„Абаронцы беларускае культуры“.** Камітэт будовы гмаху пад беларускую гімназію і бурсу ў Навагрудку зьвярнуўся да паслоў усіх кірункаў з просьбай запрапанаваць у Сойме, каб на даканчэньне гэтага гмаху была ўстаўлена ў бюджэт адпаведная асыгноўка. У адказ на гэта паслы з клюбу „Змаганьне“, Дварчанін і Гаўрылік, прыслалі пісьмо, у якім ня толькі рашуча адмовіліся падтрымаць гэту справу, але й заявілі, што будуць весьці актыўнае змаганьне з будовай гмаху для гімназіі, як... „кулацка-буржуазнай“ выдумкай.

× **Беларуска-украінска-літоўская супрацоўніцтва.** Беларуская, украінская і літоўская студэнская моладзь у Віленскім Унівэрсытэце ўжо даўно выяўляе ўзаемныя сымпатыі, што ў нашых варунках зусім зразумела. Цяпер ад слоў студэнскія саюзы гэтых трох нацыянальнасьцяў перайшлі да дзела і з'арганізавалі напачатак супольны баль, які адбыўся ў нядзелю, 9 лютага, у салі Гандлёва-Прамысловага Клюбу. У канцэртным аддзеле выступалі прадстаўнікі беларусаў, украінцаў і літвіноў.

Гэткія балі маюць адбывацца кожын год, замацоўваючы гэтак беларуска-украінска-літоўскую дружбу сярод моладзі,—што асабліва цэнна з з увагі на тую варожасьць, якую ў апошніх часох выяўляе ў адносінах да беларусаў сфашызаванае старэйшае грамадзянства літоўскае.

× **Уступная (інаўгарацыйная) лекцыя лектара беларускае мовы Д-ра Я. Станкевіча на У. С. Б, ў Вільні** будзе ў суботу дня 15 лютага б. г. ў 4 гадзіны вечара ў IX салі галоўнага гмаху Унівэрсытэту (уваход з дзядзінца касьцёла сьв. Яна). Уваход на лекцыю вольны і для не студэнтаў.

× **Вечарына ў Віл. Бел. Гімназіі.** У суботу, 15 лютага, у 7 гадз, увечары адбудзецца ў салі Віл. Бел. Гімназіі вечарына-спэктакль. Пастаўлены будуць п'есы: „На папасе“ Янкі Купалы і „Кветка папараці“ Канстанцыі Буйлы.

× **Выстаўка ручных работ вучаніц Віл. Бел. Гімназіі** адбудзецца 15 лютага ў салі Віл. Бел. Гімназіі. На наступнай вечарыне, тэрмін якое будзе абвешчаны асобна, адбудзецца на карысьць незаможных вучняў і вучаніц лётэрыя, у часе якой будуць разыграны, як фанты, выстаўленыя на выстаўцы рэчы і значная лічба іншых фантаў.

Агляд выстаўкі ў суботу ад 7 гадз. веч. і ў нядзелю ад 12 да 2 гадз. дня.

Перачытаўшы газэту — перадай другому.



# Пісьмы ў Рэдакцыю.

## I.

Паважаны гр. Рэдактар.

Гэтым не адмоўце зьмясьціць у Вашай паважанай газэце „Наперад“ наступнае:

У № 5 „Беларускай Крыніцы“ ад 9 лютага г. г. у стацьці пад назовам: „Луцкевіч з кумпаніяй працуе“ у той частцы яе, дзе закранаецца справа Віленскай Беларускай гімназіі, між іншым надрукавана: „...калі гімназія была ў руках грамады—была яна грамадаўскай палітычнай экспозытурай у поўным значэньні гэтага слова“.

Перадусім **няпраўда**, што Віл. Бел. гімназія была ў руках Грамады, бо-ж Грамада як арганізацыя ніколі концэсіонэрам гімназіі ня была.

Калі-ж аўтар успомненай стацьці пад гэтымі словамі разумее не формальны бок справы, а фактычнае кіраваньне гімназіяй праз Пэдагогічны Пэрсонал грамадаўскае ідэолёгіі, дык і тут сьвядома мінаецца з праўдай—бо-ж гімназія, як школа ніколі ня была экспозытурай той ці іншай палітычнай організацыі ці партыі.

Зразумела, што кожны вучыцель зьяўляецца перадусім чалавекам і як такі базумоўна волей-няволей перадае сваю ідэолёгію дзецям, а тым болей тады, калі аднача́сна зьяўляецца і клясавым кіраўніком г. зн. бліжэй стаіць да ўзгадаваньня моладзі, аднак ад гэтага яшчэ вельмі далёка да нейкае „палітычнае экспозытуры“.

У далейшых сваіх вывадах аўтар азначанае стацьці піша: „Луцкевіч у прэсе, а яго прыяцелі ў гімназіі гэты палітычны грамадзкі дух стварылі, падтрымлівалі, пахвалялі“. Тут ізноў-жа „Бел. Крыніца“ сьвядома імкнецца прыпісаць Пэдагогічнаму пэрсоналу гімназіі спэцыяльную палітычную працу ў школе.

Як тагачасны і цяперашні кіраўнік Віл. Бел. гімназіі, катэгорычна заяўляю, што ані ў часе „Грамады“, ані цяпер ніякае палітычнае працы сярод моладзі гімназіі Пэдаг. Пэрсонал ня вёў і не вядзе. Што-ж датычыць агульнага кірунку, дык мушу зазначыць, што большасьць Пэдагогічнага Пэрсоналу гімназіі засталася тая самая, што была і ў часе „Грамады“, а тым самым зразумела, што і агульны кірунак узгадаваньня моладзі застаўся той самы—ён не зьяўляецца ані буржуазным, ані шовіністычна-клерыкальным; яго можна назваць грамадаўскім, бо ён—радыкальна народніцкі.

Няпраўдай таксама зьяўляецца заява „Бел. Крыніцы“, што быццам гр. А. Луцкевіч толькі пасьля разгрому Грамады „зьявіўся ў гімназію як пэдагог“. „Бел. Крыніцы“ добра ведама, што гр. А. Луцкевіч працуе вучыцелем у Віл, Бел. гімназіі з невялікім перарывам яшчэ ад 1920 году.

Каб выясьніць урэшце справу прашлагодняга выдаленьня вучняў з гімназіі, мушу зазначыць, што сапраўднымі „дзеячамі“, якія пхалі вучнёўскую моладзь на тыя недарэчныя выступленьні, дзякуючы каторым часьць моладзі павінна была пакінуць сьцены школы, па майму глыбокаму перакананьню зьяўляюцца **правакатары** з розных партыяў і арганізацыяў, якія ў гэтай акцыі падалі сабе руку, а „Беларуская Крыніца“—з сумам павінен сказаць—сапраўды з поўнай сьвядомасьцяй таго, што робіць, дагэтуль не спыняецца пашыраць сярод грамадзянства ўсю тую ілжу, якая фабрыкуецца ворагамі беларускае школы з мэтай яе „ўзрываньня“.

З пашанай (—) **Р. Астроўскі.**
Дырэктар Віленскай Беларускай гімназіі.

## II.

Грамадзянін Рэдактар!

Не адмоўце зьмясьціць у „Наперадзе“ наступных радкоў.

З прычыны зьмяшчэньня ў газэце „Наперад“ адозвы Беларускага Царкоўнага К-ту да праваслаўнага грамадзянства ў справе выбараў на праваслаўны Сабор, як падае „Бел. Крыніца“ № 5 з 9.II. г. г. сабраўся аж так зв. „Хадэцкі Нацыянальны Камітэт“ на чале з истинно-русским бѣлоруссом сэн. В. Багдановічам, які на старонках свае газэціны „Бел. Крыніцы“ і заявіў, што яму—г. зн. Каталіцка-Хадэцкаму К-ту ня ведамы ані склад, ані арганізацыя Беларускага Царкоўнага К-ту.

Падумаць толькі! Беларускі Царкоўны Праваслаўны К-т павінен замэльдавацца ў сэн. Багдановіча і Я. Пазьняка!!! А то-ж на якой падставе? Я. Позьняк—каталік, а В. Багдановіч? Хто-ж яго ведае... Можа ён і праваслаўны па своему, але Праваслаўная Царква ў Польшы яго такім ня лічыць.

Дык чаго-ж Вам, ягамосьці, сунуцца, як кажуць маскалі... у калашны рад? Па нашаму гэта будзе крыху далікатней: „Не ў свае сані не сядайце!“.

**К—ны.**

# Карэспандэнцыі.

## Меская рада ў Валожыне.

Меская рада ў Валожыне складаецца з шасьцёх сьвядомых Беларусаў, трох жыдоў і трох апалячаных Беларусаў.

Нядаўна гэтая рада разглядала зьмену назоваў вуліцаў валожынскіх. З зьменамі гэтых назоваў чыстая бяда: спрадвечныя беларускія назовы, па каторых можна чытаць гісторыю кожнага нашага места й мястэчка змяняюцца на назовы чужыя, або ўрадніцкія, нічога ня кажучыя ані сэрцу, ані розуму мясцовага чалавека. Дык найляпей было-б, каб гэтых назоваў зусім не чапаць; а калі дзе паднята аб гэтым пытаньне, дык трэба называць вуліцы прозьвішчамі беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў. Калі нашыя мескія й валасныя рады будуць так рабіць, дык панове старасты і назначаныя ці пад націскам улады выбраныя бурмістры й войты страцяць усю ахвоту да зьмены назоваў. Вось-жа і ў нашым Валожыне было паседжаньне мескае рады аб зьмене назоваў вуліцаў. Радныя сьвядомыя Беларусы запрапанавалі назовы Янкі Купалы, Якуба Коласа і Пранціша Скарыны. Нажаль, некаторыя Беларусы, баючыся спракудзіцца перад войтам — асаднікам Швэдам, каторы падыктатарску ўсім загадуе ў Валожыне і ненавідзіць Беларусаў, галасавалі проці сваіх беларускіх назоваў. З гэтае прычыны такі адна вуліца названа вуліцай Янкі Купалы. Прозьвішчаў гэных Беларусаў, што так нягодна ўчынілі, пакуль што не падаем, спадзяючыся, што яны самі зразумеюць усю сваю віну і паправяцца пры іншых справах.

Апошняя зборка нашае валожынскае рады была пасьвячана бюджэту на 1930/31 год. На зборцы блізу што ўсе райцы выказавалі нездаваленьне з прычыны таго, што бурмістр, асаднік капітан Швэд, зусім ня лічыцца з радаю ў сваей гаспадарцы. „Мы ня ведаем,—крычэлі райцы,—на што бурмістр выдае мескія грошы!“ Відавочна капітан Швэд думае, што ён камандуе ротаю, а не бурмiструе ў Валожыне. Нездаваленьне проці ахвіцэрскага бурміністра паўстала такжа з прычыны таго, што бурмістр дагэтуль ня выплаціў прызнаных радаю на беларускую прыватную школу ў Валожыне 750 зал. За ўсе шкодныя Валожыну ўчынкі Швэдавы яго даўно трэ' было звольніць з бурмістроўства, але беларуская цярплівасьць нашых райцаў і тут паказалася: яны запрапанавалі зьменшыць яму пэнсыю да 300 зал. у месяц. Але й тут асаднік Швэд выкруціўся: ён згадзіўся зьменшыць ступень, але зьмяніў адносна „szczebel“ так, што пэнсыя асталася тая самая. Запраўды, за тую гадзіну, на якую забяжыцца Швэд у канцэлярыю магістрату, яму й 300 зал. шмат!

На гэтым-жа паседжаньні рада прыняла пастанову аб дапамозе беларускай прыватнай школе ў Валожыне, заклапзенай у 1928 шк. годзе Беларускім Гаспадарскім Зьвязам. Магістрат запрапанаваў даць 750 зал., але на прапазыцыю райцаў сьвядомых Беларусаў, рада прызнала 2500 зал. За гэтую суму галасавалі ўсе райцы Беларусы й Жыды, проці яе былі тры апалячаныя Беларусы — Глябовічанка, ейны брат і кс. Удальскі. Апошні, каб разьбіць Беларусаў і Жыдоў, запрапанаваў на жыдоўскую школу 2500, а на беларускую 1000, але Жыды на гэтую вудачку не пайшлі. Проці асыгноўкі на беларускую школу выступіў і лаўнік Марцінкевіч. Апрача таго меская рада прызнала 100 зал. Валожынскаму Т-ву Беларускага Гаспадарскага Зьвязу на бібліатэку.

На гэтым апошнім паседжаньні райцы Беларусы першы раз выступілі арганізавана. І гэтая арганізаванасьць адразу дала свае добрыя рэзультаты. Рупячыся аб дабры места й насяленьня яго, большасьць, створаная з шасьцёх Беларусаў і трох Жыдоў, паправіла ў магістраці проект бюджэту так, што і ўсе пільныя патрэбы места будуць здаволены, і надзвычай цяжар падаткаў значна зьменшыцца. Асабліва трэба прывітаць зьменшаньне праектаванае асыгноўкі на польскую ўрадовую школу. На гэтую школу, вучыцялі каторай аплачваюцца ўрадам, а памяшчэньне соймікавае, магістрат (г. зн. асаднік Швэд!) запрапанаваў прызнаць ажно 9.000 (дзевяць тысячаў!), зл. Увесь бюджэт у магістрацкім праекце быў 170 тысячаў, а Рада зьменшыла яго да 115 тысячаў.

**Валожынец.**

## Навучаюць езьдзіць.

(Вялейскі павет).

Калісьці пісалася ў газэтах, што ўрадам выданы загад аб навучаньні „пшэпісаў руху коловэго“. Дык мусіць на падставе гэтага загаду навучылі і мяне гэных „пшэпісаў“, толькі не „коловэго“ а саннага руху.

Раніцай 21 студзеня г. г. выбраўся я на кірмаш у м-ка Куранец, і яшчэ першы раз у гэтым годзе выпала ехаць у санях, бо-ж аж дагэтуль у нашай мяйсцовасьці яшчэ зусім ня было сьнегу.

Прыехаў у мястэчка. Еду вуліцаю, аж віджу каля пастарунку паліцыі ходзіць па вуліцы паліцыянт, а збоку вуліцы каля дзесятка хурманак стаяць. Калі параўняўся з паліцыянтам, дык быў затрыманы і я сам, а за што? Ды за тое, што ня было ля хамута прычэпленага званочка.

За гэты самы праступак былі затрыманы і ўсе стаяўшыя ўжо хурманкі.

Усіх затрыманых ськіравалі ў пастарунак, а там загадалі заплаціць усім па 50 грошаў кары. Пад канец дык ужо бралі па „кругленькім“ злоту.

Дык вось якая навука! Калі хто прывёз які апошні пуд, каб за яго купіць солі, газы і др. рэчаў, мусіў заплаціць адзін злот „кары за навуку“, а за паўтара злота купіць званочак, дык солі купіць ня было ўжо за вошта, і прышлося дамоў ехаць бяз солі і газы, але за тое праз усю дарогу была весела ехаць, бо-ж ля хамута вісеў ужо званочак, каторы сваім сумным дзіліньканьнем напамінаў, што мы жывём у культурнай староньцы і вучымся „заходняй культуры“.

**„Мірус“.**

